*— Каго любіш?*

*— Люблю Беларусь!*




ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

11 КАСТРЫЧНІКА 1996 г. № 41 (3865) Кошт 2 500 руб.

НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ БЕЛАРУСІ

# НЕЧАКАНЫЯ ЧАКАНАСЦІ МІХАЛА ФІНБЕРГА



У спісе прэтэндэнтаў на ганаровыя лаўры ягоная кандыдатура — ці не адзіная, вакол якой можна не ўсчынаць спрэчкі. Слава пра народнага артыста Беларусі Міхала Фінберга ідзе гучная і добрая. Каго-каго, а знанага маэстра галоўная прэмія краіны, пэўна ж, не абміне, навошта яшчэ ладзіць нейкае дадатковае абмеркаванне "мастацкага ўкладу", відавочнага настолькі, што...

Што аказваецца досыць няпростаю справай — расшыфраваць пратакольную фармулёўку вылучэння: "за канцэртныя праграмы 1992—1995 гг.". І сапраўды, паспрабуйце вось так, з ходу, прыгадаць усе імпрэзы, наладжаныя за гэты час Дзяржаўным канцэртным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам няўрымсліва-нястомнага мастацкага кіраўніка! Тут і праграмы-прэм'еры, якія штораз упрыгожваюць маладзечанскі фэст Нацыянальнай песні і паэзіі, усталяваны ў нашым культурным жыцці намаганнямі самога ж М. Фінберга. Тут і з любоўю, з натхненнем зладжаныя-праведзеныя аўтарскія вечарыны: кампазітараў Ігара Паліводы, Ігара Лучанка, Эдуарда Зарыцкага; паэтаў, чыя творчасць спакроўлена з роднаю песняй, — Генадзя Бураўкіна, Ніла Гілевіча, Уладзіміра Някляева... Тут і "зробленыя на салістаў" і для ўдзячных слухачоў маляўнічыя нізанкі рэтра-шлягераў; і канцэрты ў памяць карыфеяў жанру — Глена Мілера, Эдзі Рознера; і тытанічная праца (у "жывым", як заўсёды, гучанні!) на галоўнай пляцоўцы "Славянскага базара"...

Заўсёды чакаеш: а што ж яшчэ прыдумае-запрапануе апантаны творчай працай маэстра? Чаканні спраўджваюцца. Ды чаканае зазвычай поўняць нечаканасці.

Вось хаця б канцэрт, які адбыўся падчас фестывалю "Мінская вясна-96". Цікаўныя чакалі: што там ізноў выштукавала маэстрава фантазія? Бо й сапраўды дзіўнаю была назва канцэрта: "Фолк + джаз = музыка". І ўрэшце — сапраўды нечаканае ўзрушэнне сталася радасцю для многіх слухацкіх сэрцаў.

Слухацкіх — і глядацкіх. У той вечар сцэна Беларускай дзяржаўнай філармоніі выглядала нязвыкла. Ці не ўпершыню яна была падзелена паміж двума аркестрамі, такімі, здавалася б, несумяшчальнымі — ні паводле "аўдыё", ні паводле "візуальных" прыкмет. Злева — Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі, справа — Акадэмічны народны імя І. Жыновіча. Уяўляеце? Ад гэтай смелай, дзёрзкай нават, і такой духоўна прыгожай, такой у выніку пераканальнай, захапляючай, святочнай творчай акцыі аж дух займала.

Паядналіся музыкі на сцэне. Паядналася ў зале стракатая грамада іх прыхільнікаў. "Пабраталіся" два нашы выдатныя дырыжоры — Міхал Казінец ды Міхал Фінберг. Як артыстычна, з якой віртуознай тактоўнасцю змянялі яны адно аднаго на ўяўным капітанскім мосціку чарадзейнага музычнага флагмана! Якімі пікантнымі былі чаргаванні народна-інструментальных нумароў ды кампазіцый для біг-бэнда з удзелам вакалістаў "Камераты"! Якімі зачараванымі вачамі глядзелі хлапчукі з канцэртнага аркестра на самабытных віртуозаў-жыновічаўцаў Аляксандра Крамко, Сяргея Забаронка, Святлану Лясун, знаную цымбалістку Ларысу Рыдлеўскую; з якой непасрэднасцю пляскаў у ладкі з дапамогай... сваёй "залатой" трубы славуты Валеры Шчарыца! І як апладзіравалі музыкі разам са сваім кіраўніком Міхалам Казінцом, калі рэй вялі майстры Фінбергавага калектыву: Сяргей Анцішын, Уладзімір Ткачэнка (з уласнай версіяй "Саўкі ды Грышкі"), Уладзімір Семянюк, Аляксандр Стражук, Уладзімір Ксёнц!

Быў і абмен музычнымі дарункамі. У гонар кіраўніка Дзяржаўнага канцэртнага аркестра жыновічаўцы выканалі экзатычную "Цыганскую рапсодыю" Я. Грыдзіна; майстры народна-інструментальнага выканальніцтва, чый калектыў яшчэ пад кіраўніцтвам І. Жыновіча М. Фінберг, зусім тады юны, слухаў у родным Мазыры, атрымалі "ў падарунак" віртуозную п'есу для трамбона ў выкананні Віктара Бударына. Апафеозам сталася сапраўднае паяднанне ў неўміручай "Песні пра Нёман" Н. Сакалоўскага, калі пад акампанемент жыновічаўцаў заспявалі вакалізам... трубачы, а потым узялі свае звонкія інструменты, і шырокую, як шчырая душа, меладыйную плынь падхапіў аркестр...

Думаю, што падчас таго канцэрта шматлікія фанаты эстраднай інструментальнай і джазавай музыкі для сябе адкрылі (для сябе нязнаны!) свет высокапрафесійнага і натхнёнага народна-інструментальнага мастацтва. Думаю, што прыхільнікі беларускага фальклору ў той вечар умацаваліся ў сваёй павазе да маэстра Міхала Фінберга, чыя дзейнасць у мастацтве паслядоўна і ўсвядомлена скіроўваецца на карысць Беларусі.

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота Віт. АМІНАВА*

у алегорыі "Купальскія светлякі" і іншых. В.Жураўлёў слушна сцвярджае, што пісьменнік заўважыў паслабленне ў псіхіцы і свядомасці нашых людзей пачуцця нацыянальнай годнасці, памяці і іншыя павевы гістарычнага часу, пашыраў важнае кола агульначалавечай праблематыкі. Гэта асабліва выразна выявілася ў палемічным супрацьпастаўленні вобразаў Лабановіча і Рыгора Нязвычнага, галоўнага героя рамана Ц.Гартнага "Сокі цаліны". Розныя погляды на творы Якуба Коласа і Цішкі Гартнага як з'явы ў значнай ступені супрацьлеглыя выразна бачацца ў вырашэнні праблемы вучнёўства і настаўніцтва. Імкненне Лабановіча, навучаючы сялянскіх дзяцей па абавязку службы, дапамагаючы сялянам з меркаванняў высокай грамадзянскай адказнасці, унутранай культуры, вучыцца самому, думаць пра сваё самаўдасканаленне, вельмі перспектыўнае, арыентавана на будучыню. Ц.Гартны ж у паказе самога працэсу настаўніцтва і вучнёўства прытрымліваецца зусім іншай пазіцыі. В.Жураўлёў намагаецца зразумець, адкуль у героя Ц.Гартнага з'явілася універсальнае настаўніцкае права "вучыць, а не вучыцца", якая роля гэтага права ў рэальнасці. Рыгор Нязвычны дзейнічае ў межах вядомай бальшавіцкай тэорыі "пра бясспрэчны авангардна-настаўніцкі прыярытэт рабочага класа ў рэвалюцыйна-перабудовачных працэсах". Галоўная загана героя — настаўніцтва, месіянства, жаданне стварыць уласную тэорыю паводзін і ва ўсіх яе ўкараняць.

Адначасова з раскрыццём эксперыментатарскага духу рамана "Сокі цаліны" закранаецца праблема няпростага і нялёгкага шляху першапраходчыкаў у літаратуры, да ліку якіх адносіўся і Ц.Гартны, асвятляецца логіка лёсаў пісьменнікаў 20—50-х гадоў, якія вымушаны былі прытрымлівацца ідэалагічных установак у ацэнцы з'яў грамадскага жыцця і класавай барацьбы, натыкаліся на розныя іншыя заганныя тэорыі, міфы, ілюзіі і значна змяншалі патэнцыяльныя магчымасці талентаў.

Ствараўся ў час, калі ўжо закладваўся "трывалы падмурак" класавага падыходу да ацэнкі чалавека, і раман К.Чорнага "Сястра" (1927). Гэты твор К.Чорнага В.Жураўлёў разглядае ў суаднесенасці з такімі творамі рускай літаратуры, як раман Я.Замяціна "Мы" (1920) і аповесць А.Платонава "Катлаван" (1930), у якіх "вялікая аперацыя" расчалавечвання асобы паўстае як цалкам рэальная альтэрнатыва гісторыі, адчуваецца чаканне адкрытага супраціўлення націску на індывідуальны духоўны свет чалавека.

В.Жураўлёў прыходзіць да вываду, што раман К.Чорнага "Сястра" сведчыць пра наватарства пісьменніка і самастойную выпрацоўку маладой беларускай літаратурай уласнага вопыту, здольнасці чуйна настройвацца на праблематыку, без асэнсавання якой нельга было разлічваць на высокацывілізаваны, духоўна-гуманістычны і сацыяльна-эканамічны прагрэс грамадства. Раман несправядліва быў адсунуты на абочыну літаратурнай гісторыі, бо ўтрымліваў нешта вельмі істотнае для разумення нацыянальнай спецыфікі беларускай літаратуры, для развіцця нацыянальнай мастацкай думкі.

Небескарысным выглядае зварот В.Жураўлёва да добра вядомых беларускаму чытачу аповесцей Якуба Коласа "Адшчапенец" і К.Чорнага "Лявон Бушмар". Даследчык імкнецца звярнуць увагу на так званую падводную частку айсберга — унутраны сюжэт, сатканы з дэталяў, падрабязнасцей, з глыбокім і шматзначным падтэкстам. Дзякуючы гэтаму творы выходзяць з вузкага сюжэтна-фабульнага поля на больш шырокую эпічна-універсальную ўзаемасувязь з іншымі жыццёвымі пытаннямі. Тут і здольнасць, унутраная падрыхтаванасць чалавека з інстынктам індывідуаліста-ўласніка думаць і дзейнічаць, выбіраць жыццёвыя шляхі самастойна, і крытычны падыход да калгаснага і аднаасобніцкага жыцця, да праяў валявога і катэгарычнага націску на індывідуальную самабытнасць чалавека.

І ў першым раздзеле кнігі "Дыялог паміж "я" і "мы", і ў другім "Відушчая сіла сумнення" шматлікія ідэйна-эстэтычныя, светапоглядныя і метадалагічныя праблемы і катэгорыі В.Жураўлёў вырашае ў першую чаргу на беларускім матэрыяле. Праблему падаўлення творчай самастойнасці пісьменнікаў ён разглядае не толькі на прыкладзе лёсаў Я.Коласа і К.Чорнага, але і шматлікіх іншых пісьменнікаў (Янка Купала, М.Зарэцкі, Ц.Гартны, А.Мрый, Э. Самуйлёнак, З.Бядуля), якія, прымаючы ўдзел у стварэнні літаратурных міфаў і стэрэатыпаў, нягледзячы на таталітарны націск жорсткага кантролю і ўказанняў, усё ж знаходзілі ўдалыя мастацкія хады і сюжэтныя павароты, скіраваныя на шматмернае ўспрыманне рэчаіснасці. Як новы ўзровень гуманістычнасці ў дачыненні да чалавека-працаўніка разглядаюцца раман А. Чарнышэвіча "Засценак Малінаўка", аповесць А.Кулакоўскага "Дабрасельцы", трылогія М.Лобана "Шэметы", аповесць В.Быкава "Мёртвым не баліць" і іншыя творы, аўтары якіх адчулі моцны прэсінг прасталінейнай і зневажальнай крытыкі ў 50—70-я гады.

Аб шырокім дыяпазоне назіранняў В.Жураўлёва сведчыць і тое, што ён памятае пра неабходнасць вывучэння айчыннай літаратуры ў святле агульных заканамернасцей гісторыі і тэорыі мастацтва. Асабліва часта прыцягваецца да аналізу творчы вопыт рускіх пісьменнікаў. Даследчык звяртаецца да прарочага слова геніяльнага Ф.Дастаеўскага аб вялікім і "боскім" у чалавеку (раман "Бесы"), аб відавочным уплыве яго мастацкай традыцыі, якая ацэньвае чалавека як найгалоўнейшае вырашальна-філасофскае звяно ў свеце і як тую сілу, што здольная выстаяць у самых жорсткіх абставінах.

У кнізе В.Жураўлёва настойліва падкрэсліваецца думка, што для паспяховага развіцця мастацкай творчасці неабходна пашырэнне дружбы паміж літаратурай і філасофіяй, якая з'яўляецца традыцыйнай у сусветнай літаратуры. Буйныя пісьменнікі заўсёды выступалі адначасова і арыгінальнымі філосафамі. Беларуская філасофія унікальная ў тым сэнсе, што не стварыла закончанага вучэння, не мае ніводнай завершанай сістэмы поглядаў. Можа, і адсюль у В.Жураўлёва назіраецца багацце доказаў і аргументаў, узятых з прац вучоных свету — рымскага імператара, военачальніка і мысліцеля Марка Аурэлія, французскіх філосафаў Ж.П.Сартра, М.Я.Гелера, рускіх філосафаў розных арыентацый А.Лосева, М.Устралава, І.Паўлава, М.Амосава, В.Несцярэнкі і іншых.

Працу В.Жураўлёва пранізвае ідэя, што рацыяналістычная тэндэнцыя ў беларускай літаратуры не спыняла гуманістычна-пошукавы рух і ва ўмовах, відавочна неспрыяльных для яе развіцця, хоць часам і мусіла звужаць сваю пазнавальна-эстэтычную функцыю. Больш таго, неспрыяльная абстаноўка ў нейкай меры нават спараджала тэндэнцыю абвостранага рацыяналізму і падтрымлівала яе адпаведны мастацкі тонус. Беларускія празаікі імкнуліся да патрэбнага майстэрства і смеласці ў галіне гістарычнай праўды. Аднак у літаратуры савецкіх гадоў глыбінныя пытанні прычынна-выніковых сувязей мастацкага дзеяння выяўляліся слаба, прычыны і вынікі ў працэсе асваення рэчаіснасці працяглы час адасабляліся і супастаўляліся паміж сабой толькі знешнім чынам або заўважаліся ў падтэксце. У сувязі з гэтым вельмі цікавым і карысным выглядае позірк В.Жураўлёва на літаратурны рух савецкай эпохі ў ракурсе прычынна-выніковай залежнасці паміж падзеямі і ўчынкамі людзей, у святле ўзаемаадносін паміж асобай і грамадствам.

**Міхась НЯХАЙ**

наеш разумець, што ёсць рэчы, якія **настойліва патрабуюць** спасціжэння. Але па тых ці іншых прычынах яны не могуць існаваць у прасторы верша. Паэту адкрываецца незнаёмая гармонія — гармонія прозы, што на першы погляд здаецца звычайнай, а на самай справе тоіць у сваёй "звычайнасці" пастку для неразумных і саманадзейных. Мудрых жа і ўдумлівых чакае трыумф: "Ля берага, воддаль ад мяне, стаіць па плечы ў вадзе бутэлька з-пад ліманаду, але з невыводным гарэлачным духам: акругліла пасінелы рот і гаворыць: "Усіх уцягну-у-у". Вецер, які набяжыць, хіба што зможа дадаць моцы яе голасу.

Пергаментна-сухі — леташні чарот" ("Каму пазваніць?").

"Аратай, які пасвіць аблокі" — кніга, існаванне, якой стала магчымым дзякуючы сінтэзу паэзіі і прозы. Менавіта гэты сінтэз увасабляе для Рыгора Барадуліна найбольш поўна і суладна выражаную гаму пачуццяў, як некалі сінкрэтызм першабытнага мастацтва набліжаў першапродка да неспасцігальнага.

Незвычайная форма не будзе выглядаць штучнай толькі тады, калі яна напоўніцца зместам без ценю павярхоўнасці і паху цвілі. "Некананізаваныя ўспаміны" Рыгора Барадуліна адразу ж уражваюць сваёй інфармацыйнай ды эмацыянальнай насычанасцю. Калі для самога паэта ўспаміны, напрыклад, Станіслава Пятровіча Шушкевіча былі "жывой гісторыяй" ("А ведаеце..."), то цяперашнім юным ужо зборнік "Аратай, які пасвіць аблокі" распавядае пра людзей, што ўяўляюцца хутчэй легендамі, а не рэальнымі асобамі: амаль міфічнымі здаюцца сёння Уладзімір Караткевіч ("І коскі з месца не зрушу!..") і Міхась Стральцоў ("Конь гуляў па волі..."), Рыгор Бярозкін ("А пісаць Грыша ўмее...") і Анатоль Анікейчык ("Чорначупрынны, чорнабароды, дужы"). Міфы ж, як вядома, гучаць па-рознаму ў кожнага апавядальніка. Рыгор Барадулін бачыць сваіх сяброў такімі, якімі **ён хоча** іх бачыць. Таму так многа ў ягонай кнізе асабістага, суб'ектыўнага...

## *МАНАЛОГ ТРЭЦІ*

## СКЕПТЫК

Ну-ну, "суб'ектыўнага"!.. Я б сказаў — падкрэслена-суб'ектыўнага, з'едлівага і нервовага. А тая славутая "парадаксальнасць мыслення" ператвараецца часам у максімалізм, непрымірымасць, недаравальнасць. не перагорнеш і дзесяці старонак, як у каторы ўжо раз спатыкнешся аб "ЦК", "партыю", "марксізм", "дасье", "сталінска-чэкісцкі сацрэалізм", "ленінска-сталінскі рэжым". Яно, здаецца, і правільна: гаворка ідзе пра часы, якія проста немагчыма ўявіць без згаданых "рэалій". Але літаратура не даруе "перабору". Няхай сабе **справядлівыя** крыўда і гнеў прымушаюць пісьменніка вяртацца ўвесь час у думках да аднаго і таго ж. Ды нават "суб'ектыўны" жанр патрабуе цвёрдасці і разважлівасці. Іначай самыя пранізлівыя радкі, якія аўтару здаюцца надзвычай яркімі, ашаламляльнымі, атрымаюцца драбнавата-злоснымі, нематываванымі, не зусім лагічнымі, адным словам — "дзіўнаватымі": "Дасье ні на кога не пісаў. На сяброў тым болей. Таму і ўспаміны не могуць быць датавана дакладнымі. Дасьетчыкам лацно. Цэлыя кнігі атрымліваюцца" ("І коскі з месца не зрушу!..). Гэткае катэгарычнае выказванне далучае да "дасьетчыкаў" і людзей педантычных, якія па трыццаць-сорак гадоў вядуць дзённікі і таму могуць "дакладна датаваць" падзеі свайго жыцця, багатага не менш за барадулінскае на таленавітых сяброў і невымерныя страты.

Ці не ў кожным тэксце ўзгадваецца і Кніга ўсіх (ці, прынамсі, вельмі многіх) часоў і народаў — Біблія. Цяжка сёння звяртацца да яе, бо надта ўжо зашмальцаваная яна агульным "захапленнем". Колькі вякоў цытуюць людзі Біблію, але, відаць, толькі нашае стагоддзе здолела за досыць кароткі час расцягнуць яе па цытатах і цытатках, прыкрыць просты і невычэрпны сэнс моднымі лахманамі, якія імітуюць глыбокую Задуменнасць.

Рыгор Барадулін піша ў "Пастаяльцы нябёсаў", што "Біблія, у аўры якой спасцігаў свет Марк Шагал, дыктавала яму вобразы, давала апратку слоў фантазіі мастака". "Слова" пра Максіма Багдановіча — "Не разбіць, не спыніць, не стрымаць..." — завяршаецца своеасаблівым рэзюме: "Усё, як у Бібліі". Тут, здаецца, "біблейскія матывы" да месца. Але міжволі скептычна ўчытваешся ў радкі, дзе ў тым ці іншым выглядзе прысутнічае Кніга, — ці не сімптомы гэта "бібліяманіі"? Хочацца верыць, што не...

## *МАНАЛОГ ЧАЦВЁРТЫ*

## АПТЫМІСТ

Хочацца, дык і верце! Вам бы ўсё ныць ды плакацца. Самі ўсё ўздыхаеце, што вельмі цяжка спасцігнуць душу пісьменніка, прабрацца ў ягоную творчую лабараторыю. З вамі Рыгор Барадулін, можна сказаць, самым патаемным дзеліцца, а вы яшчэ носам круціце! Паслухалі хоць бы Уладзіміра Арлова, які лічыць, што "прыватнае жыццё пісьменніка заўсёды ўяўляе сабою каштоўны каментар да яго мастацтва" ("Нёман", 1996, N 6). "Аратай, які пасвіць аблокі" захоўвае сцэны з прыватнага жыцця не толькі Рыгора Барадуліна, але і вялікай колькасці тых пісьменнікаў, чые загадкі хвалююць нас сёння і з цягам часу будуць хваляваць яшчэ больш. Аўтар прапануе свае версіі "разгадак" некаторых лёсаў: "Цяпер, калі не стала Міхася, ці Мішы (як каму пяшчотней было называць), некаторыя калегі, каб хоць як узвысіцца ў сваіх жа вачах, пачынаюць крычаць пра сваё ледзь не мецэнацтва, падкрэсліваць любоў Стральцова да чаркі. Гэтак жа плявузгалі і пра Караткевіча. У так званыя застойныя часіны ў застолле ішлі, як у партызаны, уцякалі ад хлусні, ад маны, ад абавязку славіць догмы, уцякалі, душу ратуючы" ("Конь гуляў па волі..."). Напісана, можа, і крыўдліва, злосна ў адносінах да "мецэнатаў", аднак шчымліва-шчыра, нават пакутліва.

Шчыры Рыгор Барадулін да нястрыманасці. Ад трагічнага да смешнага ў "Аратаі, які пасвіць аблокі", нібы ў жыцці, — адзін крок. Побач з асобнымі "сяброўскімі словамі" і ўспамінамі, якія сапраўды можна назваць па-барадулінску "Евангеллямі жаху", — някрыўдна смешныя, хоць часам і кплівыя "Прыбабунькі". А "прастакаватае і хітраватае, вясёлае і сумнаватае" "Здубавецця" пераконвае, што беларуская Ушаччына ні ў чым не саступае славутаму ці не на ўвесь свет балгарскаму Габраву.

Атмасфера "Здубавецця", дарэчы, нагадвае пра тое, што мудры смех чалавецтва не мае ўзросту: ён адначасова стары, як Сусвет, і неверагодна "юны", бы немаўля, якое толькі што нарадзілася. Так, наздвычай распаўсюджаная ў антычных камедыях сітуацыя "qui pro quo" дае плён і ў жыццёвай камедыі беларусаў:

"Жылі суседзямі мужык з яўрэем. Мужыкоў кнораз убіўся ў гарод да яўрэя. Той з прэтэнзіяй:

— Іван, а Іван! Твой свіны бык парыў мая ўся бульба.

— У мяне няма ніякага быка. Ёсць толькі кнур.

— Пад які там шнур. Ён парыў абы-як — і ўздоўж і ўпоперак".

*("Свіны бык")*

Многа ў "вушацкіх запісах" смешнага, многа і грэшнага, фрывольнага. Дык і мы гэтак жа жывём: бывае — цяжка, калі-нікалі — весела, а зрэдчас — і ў грэх які ўлезеш...

## *МАНАЛОГ ПЯТЫ*

## МАРАЛІСТ

"Зрэдчас"!.. Якая крывадушнасць!.. Як пачытаеш таго "Аратая...", дык складваецца ўражанне, што вакол Рыгора Барадуліна свет "піў, як у бот ліў" ды блудзіў.

"Фрывольны фальклор"!.. Гэтак сказаць — нічога не сказаць. Нават да фалічнага фальклору аднесці вакханаліі, апісаныя Рыгорам Барадуліным, можна з нацяжкаю. Вавілон! Садом і Гамора! Чым, вы думаеце, займаліся некалі пяцікласнікі ў школе?! "Расла цікаўнасць, расло неакрэсленае нецярпенне. Усё расло. І не дзіва, што недзе ў пятым класе мы, падросткі, на задняй парце на ўроку фізікі адпаведна лінейкамі мералі свае агуросткі. І тут кожнаму хацелася быць наперадзе. Да сорамнага смешна ўспамінаецца, што мы з суседам Сарокіным былі горда задаволеныя" ("На таку майго веку"). Магчыма, для кагосьці перамога ў падобных "спаборніцтвах" сапраўды ганаровая, але навошта пра гэта абвяшчаць усяму свету?!

А моўнае крэда Рыгора Барадуліна чаго вартае: "...у натуральнай гаворцы ў побыце моцнае слова стаяла з самым узвышаным і не было чыстаплюйства"... Няхай падобная "мешаніна" і выглядае бяскрыўдна дзе-небудзь на вясковай лаўцы, а ў надрукаваным выглядзе яна проста шакіруе цнатлівыя душы.

Хоць у нечым тыя "Прыбабунькі" маюць рацыю — "які груган, такая і песня"...

## *МАНАЛОГ ШОСТЫ*

## ФЛЕГМАТЫК

І навошта так крычаць?.. Барадулін як Барадулін. Кніга як кніга. Не першая ў яго і не апошняя. Вось я шчэ яе не чытаў — і нічога, жывы, нават вельмі нядрэнна сябе адчуваю. Можа, пагартаю калі таго "Аратая...", а можа, — і ў рукі не вазьму. І вы як сабе хочаце... Толькі ў спрэчку навошта кідацца? Усё роўна кожнаму свая праўда бліжэйшая і раднейшая. Я таму і не чытаю нічога, каб спакусы не было падзяліцца ўражаннямі — за іх могуць і па шыі. Асцярожны я, прадбачлівы. Нашто сабе ворагаў нажываць? Ат, праўду кажуць: "Не столькі брагі, колькі звягі"...

...А з другога боку — не чытаўшы, дык у патрэбны час і не пахваліш — ізноў па шыі атрымаеш. Можа, і пачытаць таго "Аратая..." на ўсялякі выпадак?..

## *ЭПІЛОГ*

Нашага героя супярэчнасці раздзіраюць і дагэтуль. Хутчэй за ўсё, ён так і не набудзе гнуткасці ды пластычнасці, не навучыцца жыць па законе "плаўных пераходаў". Колькасць ягоных "кватарантаў" змяняецца ў залежнасці ад абставінаў, але іх ніколі не бывае менш двух, адзін з якіх абавязкова не згодны з другім. Свабода думкі, што называецца...

**P. S.** Мараль: "Пашкадуйце гаротнага пакутніка!..".

**Ірына ШАЎЛЯКОВА**

# МАСТАК І ГІСТОРЫК



**3 кастрычніка споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння мастака Мікалая Васільевіча Дучыца. Яго імя, на жаль, зараз амаль што забыта. А дарэмна, таму што творчасць майстра сёння можа служыць добрым прыкладам нягучнай, але па-сапраўднаму шчырай любові да Бацькаўшчыны.**

**У Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны экспануецца унікальная серыя работ мастака пад назвай "На руінах Мінска". Яны былі напісаны ў 1941—1944 гг., таму ўяўляюць адначасова мастацкія творы і каштоўныя гістарычныя помнікі аднаго з самых цяжкіх для Беларусі перыядаў. Як тысячы іншых простых мінчан, М. Дучыц не здолеў своечасова пакінуць палаючы Мінск і апынуўся пад нямецкай акупацыяй. Сюжэтную канву серыі "На руінах Мінска" складаюць выявы вуліц, плошчаў, асобных будынкаў горада, па якім прайшлася жудасная маланка вайны. Уражвае рэзкі кантраст паміж яркімі, сочнымі фарбамі карцін і сумнай рэчаіснасцю іх зместу. Здаецца, што такім чынам мастак імкнецца нагадаць пра колішнія мірныя дні Мінска і адначасова спадзяецца на яго адраджэнне ў будучым.**

**Усіх прыхільнікаў добрага жывапісу, а таксама гісторыі роднага Мінска музей запрашае пазнаёміцца з невялікай, але вельмі цікавай старонкай творчасці таленавітага беларускага пейзажыста. Музей выражае шчырую падзяку сям'і М. Дучыца, асабліва ягонай унучцы — кандыдату гістарычных навук Людміле Уладзіміраўне Дучыц, за дапамогу ў арганізацыі выставы і перадачу ў дар музею шэрагу работ майстра.**

**Ірына ВАРАНКОВА,**
**намеснік дырэктара музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны**

# ПАКЛОН ТАБЕ, АКТРЫСА КОРХАВА!

**Яе любяць тэатралы Гомеля і вобласці. На "яе" ходзяць. Так, так, размова ідзе пра цудоўную актрысу нашага абласнога драматычнага тэатра. Пра Людмілу Канстанцінаўну Корхаву. Падымем заслону, скажам, хоць і не прынята гэта ў дачыненні да жанчын, колькі ёй год: споўнілася 50. І колькі было кветак, цёплых слоў, падарункаў!**

**Амаль за 30 год працы на роднай Гомельскай сцэне Людміла Канстанцінаўна сыграла шмат розных роляў — сябры і калегі дапамаглі асобныя з іх нагадаць тэатралам у час бенефісу. Гэта і Смерць у "Ладдзі роспачы" У. Караткевіча, ролю, якую яна сама, дарэчы, у многім лічыць этапнай у сваёй творчасці; гэта прыгожыя і не вельмі, шчаслівыя і не надта жанчыны ў спектаклях "Мачаха" Анорэ дэ Бальзака, "Зойчына кватэра" М. Булгакава, "Спартыўныя сцэны.." Э. Радзінскага, "Апошні парад" А. Штэйна. І многія, многія іншыя.**

**На яе вечарыне заслужаную артыстку Беларусі віншавалі з юбілеем старшыня абласнога Савета дэпутатаў В. Сяліцкі, начальнік упраўлення аблвыканкама А. Маісеенка, старшыня гарадскога Савета дэпутатаў С. Гальдадзе, старшыня Цэнтральнага райвыканкама У. Давідовіч, загадчыца кафедры Беларускай акадэміі мастацтваў Л. Манакова, галоўны рэдактар "Гомельскай праўды" В. Логвін, мастацкі кіраўнік мазырскага драмтэатра імя І. Мележа В. Ласоўскі, які, дарэчы, вучыўся разам з Корхавай у Беларускім тэатральным інстытуце, калегі з Незалежнага тэатра, старшыня абласнога жаночага савета В. Кашавенка, старшыня аб'яднанага Савета прафсаюзаў В. Ахлесцін, прадстаўнік фонду Сапегі Андрэй Толчын...**

**Усім ім актрыса сказала: "Дзякуй! Вялікі дзякуй!" і закончыла бенефіс словамі адной са сваіх гераінь: "А я лячу! Лячу! Лячу!"**

**Шчаслівага палёту табе, Людміла Канстанцінаўна!**

**Васіль ТКАЧОЎ**

# "ВЕЧНЫ ГОРАД" — ВЕЧНЫ...

***Мінулым летам трое беларускіх мастакоў і фотамастакоў на падставе ўдзелу ў конкурсе Фонду Сораса атрымалі грант на падарожжа і вывучэнне трох еўрапейскіх гарадоў, што адпаведна вызначылі ў розныя перыяды сусветнай гісторыі напрамкі культурнага і мастацкага развіцця — Рым, Афіны і Іерусалім. Мяркуем, што пазнаёміцца з уражаннямі, са спецыфічным мастакоўскім поглядам, з фотаадлюстраваннем гарадоў будзе цікава і нашаму чытачу. Першаму прадастаўляем слова мастацтвазнаўцу Міхалу Баразне, які ў якасці фотамастака наведаў Рым.***



...Прамільгнулі за вокнамі аўтобуса казачныя краявіды Чэхіі, Аўстрыі і Паўночнай Італіі. Урэшце — Рым. Канец ліпеня. Спёка. Адразу ж адчуванне агульнай рухомай жывапіснасці. Фактуры шалупення старых фарбаў і тынкоўкі, абарваныя новыя афішы, надпісы розных колераў маляўніча "перапаўзаюць" са сцяны на сцяну...

Шкада, што на словах не перадасі пах і гукі "вечнага горада". Гукі Мінска — нешта універсальнае, зусім не адметнае. Сірэны "хуткай дапамогі", паліцыі, грукат матароллераў, стракатанне цвыркуноў — найвыразная частка рымскага жыцця. Смецце на вулачках і пляцах — праява актыўнай жыццёвасці. Жыхары ставяцца да свайго "места" не як да бліскучага экспаната з музейнага сховішча. Рым — жывы горад з усім станоўчым і адмоўным.

Нашы адносіны да Рыма і да іншых вялікіх гарадоў сфарміраваны па глянцавых карцінках з альбомаў. У жыцці ўсё больш прывабнае, нерафінаванае — чалавечае. Кінутая гараджанінам ці турыстам цыгарэта — непрыемная дробязь. Але вакол пануе веліч архітэктуры і мастацтва — яно даруе, гледзячы з верху на "дзікунствы" чалавека. Чалавек тут істота часовая, ён — служка шэдэўраў.



Хадзіў, аглядаў руіны антычнага горада. Захавалася вельмі мала ад іх былой велічы. У розных кутках можна заўважыць рэшткі храмаў. Рымляне часта выкарыстоўвалі кавалкі калонаў, часткі арак і франтонаў для будаўніцтва жылля. Цяпер у такіх "слаёных пірожных" месціцца і ўсялякі турыстычны сервіс.

Вялікіх аўто зусім мала, што натуральна для найлепшай паркоўкі на вузкіх вулачках. Але больш надакучае шум ад матаролераў і мапедаў розных гадоў выпуску. І пачынае здавацца, што гэтая "траскатня" ніколі не скончыцца. Адчуваеш сябе нібы на лесапілцы.

Амаль на кожным кроку сутыкаешся з турыстамі. Багата студэнтаў і школьнікаў з заплечнікамі. Пакусы на іх тварах і руках сведчаць аб начоўках пад небам (да трыццаці пяці год, паводле міжнародных нормаў, не лічыцца, што чалавек, які спіць на вуліцы, бадзяга).



Ездзілі на мора. Праязджалі праз забудову 30-х гадоў. Як добра, што фашыстоўская архітэктура не трапіла ў цэнтр горада. Гэтая "псеўдакласіка" чымсьці нагадала творы Лангбарда ў нашай сталіцы.

На другі дзень наведаў сусветнавядомы Калізей. Ад гатэля да яго дванаццаць хвілін ходу. Будынак рэстаўруецца. Вельмі спадабаліся бліскучыя на сонцы рыштаванні, праўда, рэстаўратараў не бачна. На слова Калізей прахожыя не рэагуюць. Ён завецца ў іх Colosseo.

Тагачасны чалавек больш за ўсё любіў забавы. Вось і гэтая чаша з каменю створана, каб пераўзысці сваёй веліччу ўсе паганскія храмы. Тут, дзе забіта гэтулькі гладыятараў, дзе катавалі першых хрысціян, цяпер любімае месца фатаграфавання вандроўнікаў — на памяць. Непрыемна глядзець на выцягнутыя ад задавальнення вусны турыстаў перад фотааб'ектывам. Турыстычныя забавы як бы працягваюць першасныя традыцыі гэтага будынка.

Рым — горад мабільных тэлефонаў. Тэлефон у кішэні — прыкмета ўсіх пакаленняў жыхароў. Калі накіроўваешся некуды не пешшу — абавязкова спознішся. Без такога тэлефона — адны пакуты, а так людзі вельмі ветлівыя. У Мінску адрзу ж кінулася ў вочы — не лунае на тварах сустрэчных усмешка.

У Рыме ўдзень усе вокны зачынены стаўнямі. У аўтамабілях вокны таксама закрываюць шторкамі з кардону. У старой частцы горада заўсёды бачны дарожныя работы: рамантуюць водаправод ці кабель. Вада з калонкі, відаць, стагоддзямі, цячэ на брук, бо венцеля звычайна няма.

На вуліцах не бачна мастакоў з эцюднікамі. Вельмі горача, а, магчыма, з натуры тут ужо малявана-перамалявана. Нейкі малады мастак, праўда, каляровымі крэйдамі на "маставой" рабіў фрагмент з фрэскі Рафаэля. Дарэчы, надзвычай прафесійна. Я таксама, як і іншыя, кінуў манетку ў яго скрынку і нечакана атрымаў ад яго "грацыо".

Сабор Святога Пятра (S. Pietro). Напачатку падняўся на пляцоўку купала. Агледзеў панараму, зафіксаваў для сябе лепшыя маршруты да помнікаў, якія планаваў пабачыць.

Большай велічы, чым гэты сабор ў жыцці не бачыў. Розум без напружання, па звычцы, з асалодаю фіксаваў і аналізаваў гмах звонку і сярэдзіны. У саборы няма фрэсак, а толькі мазаікі, якія ілюзорна імітуюць алейны жывапіс. Паблукаўшы, знайшоў у саборы і захаванне Язафата Кунцэвіча.

Некалькі разоў вяртаўся ў славутую Сіксцінскую капэлу разгледзець фрэскі, адкрытыя пасля рэстаўрацыі. Мастакі рэнесансу да гарманізацыі колеру ставіліся больш вольна, чым нашы сённяшнія творцы. Грунтам мастацтва быў сцвярджальны дух і дараваны звыш талент, гэта давала прагу да ведаў, сілы, вопыту. Насычанасць мастацтва неверагодная, патрыятызм у тым, што манументальныя працы рабіліся італьянцамі. Тут кожная дэталь — узор завершанасці. Ні дадаць, ні прыбраць.

Рафаэль — віртуоз кампазіцыі і малюнка. Пажыў бы болей, магчыма, таксама праявіў сябе як архітэктар.

Мікеланджэла — майстар рэалізацыі фантастычных задумаў у архітэктуры, пластыцы і манументальным жывапісе. Яго імя прыгадваецца на кожным кроку. У фрэсках ён хутчэй вялікі інтэлектуал, чым артыст. У каларыстыцы — саступае многім шукальнікам "пералівістай" жывапіснасці. Глядзеў і здзіўляўся, як яму заказчыкі дазволілі завяршыць "Страшны суд". Па мерках постсавецкіх барацьбітоў за "духоўнасць" яго карціны ніколі не прайшлі б цэнзуру мастацкіх саветаў. Праўда, нешта на фрэсцы замалёўвалі, але ўвесь час на грунце існаваў першасны арыгінал. Не прыгадалася фактаў з гісторыі, што "Страшны суд" некалі задрапіроўвалі, як гэта адбылося летам з роспісам Алеся Пушкіна ў Магілёўскім касцёле. Можа, зямля ў іх іншая?

...Згадваю ўсё гэта зараз. І здаецца мне, нашае жыццё несапраўднае. Мы баімся дыхнуць на наша старое, а яго знішчаюць, нікога не пытаючыся, многа гаворым пра гісторыю, пра наш правінцыйны "авангард", а сучаснасць пакідаем па-за плотам актуальнасці. І не разумеем, што ані фанатычнае, мёртвае шанаванне гісторыі, ані адмаўленне яе каштоўнасцяў (калі балончыкам напісаць нешта на сцяне (амаль увесь Рым размаляваны на ўзроўні зроку), не трапіць цыгарэткай у сметніцу, не дазволіць Мінску стаць "вечным горадам", а нам — падобнымі да сапраўдных рымлянінаў.

**Міхал БАРАЗНА**

*Рым, 1996 г.*

## РОДАМ З ВЁСКІ БЕЛІЦА



**Амаль адначасова ў Віцебску адкрыліся дзве выставы твораў Мікалая Драненкі, прысвечаныя 50-годдзю мастака. У абедзвюх экспазіцыях прадстаўлена акварэль — ад ранніх шматпланавых сюжэтна акрэсленых кампазіцый да тэхнічна эфектыўных экспрэсій апошніх год. Пачаўшы працаваць у гэтай тэхніцы адразу пасля заканчэння мастацка-графічнага факультэта педінстытута ў сярэдзіне 70-х, мастак ніколі не пакідаў яе, хоць і не менш плённа тварыў у алейным жывапісе, захапляўся экслібрысам, шаўкаграфіяй.**

**Першыя краявіды, у якіх індустрыяльныя матывы былі афарбаваны выразна лірычным настроем вобразнага ладу, былі прадстаўлены на рэспубліканскай мастацкай выставе "Акварэль-77". Далей пачаліся незлічоныя пошукі і эксперыменты, у якіх Мікалай Драненка заўжды імкнуўся да лёгкасці і нязмушанасці сваёй мастацкай мовы. Дзякуючы унікальнай прагавітасці і імкненню да адкрыццяў новага, неспазнанага, мастак сёння, здаецца, знайшоў сваю ўласную адметную манеру ў акварэлі. Як і раней мастака асабліва натхняе прыгажосць беларускай прыроды, краявіды вёсачак на яго Радзіме — Сенненшчыне. Але ў творах апошніх год Мікалай Драненка больш вольны ад натурнай зададзенасці вобраза, асноўную ўвагу звяртае на жывапісна-пластычную, нават фармальна-каларыстычную выразнасць кампазіцый. Асабліва яскрава гэта відаць у творах, прадстаўленых у выставачнай зале суполкі "Віцебская акварэль", сябрам якой з'яўляецца мастак.**

**У бліжэйшых планах Мікалая Драненкі — сустрэча з землякамі і арганізацыя экспазіцыі сваіх акварэляў у роднай вёсцы Беліца.**

**Міхась ЦЫБУЛЬСКІ**

*На здымку: М. Драненка, "Раніца".*

## НАСТУПНЫ КРОК — АФРЫКА

**29 верасня ў парку імя Горкага адбылася літаратурна-турыстычная імпрэза Бум-Бам-Літа "Ням-ням". Удзельнікі незвычайнага выступлення ўвесь час дэманстравалі сапраўдную турыстычную загартоўку. Прынамсі, яны здолелі размясціцца ўсім кагалам на самой сцэне, дзе, акрамя спеваў і чытання тэкстаў, расклалі свае рукзакі, торбы, адкуль дасталі салёныя гуркі, вараную бульбу, смажанае мяса і бутэлькі з півам. Міхась Башура, Ілля Сін, Серж Мінскевіч, Зміцер Вішнёў, Юрась Барысевіч, Людка Сільнова, Альгерд Бахарэвіч, Сяргей Патаранскі, Віктар Жыбуль, Алесь Туровіч, Кастусь Елісееў, Усевалад Гарачка і Яраслаў Крыловіч паказалі прысутным, што яны маюць пэўную падрыхтоўку для далёкіх падарожжаў. Дарэчы, у беларускіх постмадэрністаў з'явіўся новы музычны інструмент — банджа!**

**Напрыканцы выступу ўсе гледачы былі запрошаны на надзвычайны перфоменс — кіданне твораў у раку Свіслач. Таму цяпер будзе зусім не дзіўна, калі нехта на беразе Аўстраліі знойдзе вялікую жоўтую бутэльку з вершамі, песнямі і скаргамі сяброў літаратурнага руху Бум-Бам-Літ.**

**Зміцер ВОЛКАЎ**

## У ЛАТЫШСКІМ "ДНІ ПАЭЗІІ"

**У верасні ў дзень нараджэння класіка латышскай літаратуры Яна Райніса ў Даўгаўпілсе праходзяць Дні паэзіі. Да гэтага свята традыцыйна з 1991 года выходзіць зборнік "Дзень паэзіі", у якім пад адной вокладкай змяшчаюцца творы на латышскай, латгальскай, польскай, рускай і беларускай мовах. У сёлетнім выданні беларускую паэзію Латвіі прадстаўляе Станіслаў Валодзька. Зборнік выдадзены за сродкі Даўгаўпілскай гарадской думы ва універсітэцкім выдавецтве "Saules" ("Сонца").**

Н. К.

Віншуем!

# Алесю ШЛЕГУ — 60



"Пільная ўвага да сучаснасці і вера яго герояў у духоўную чысціню, дабрыню, чуласць, справядлівасць чалавека" — так сказаў, пазнаёміўшыся з творамі А. Шлега, Уладзімір Караткевіч. Як і многія, перш чым стаць літаратарам, Алесь Карпавіч нямала перажыў і зведаў. Нарадзіўся ён 15 кастрычніка 1936 года ў вёсцы Вялікі Бор Хойніцкага раёна. Бацька працаваў старшынёй калгаса, маці — даяркай. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, Карп Сцяпанавіч стаў камандзірам роты партызанскага атрада імя А. Суворава. Гітлераўцы не маглі гэтага дараваць яго сям'і. У 1942 годзе яны ноччу нечакана ўварваліся ў хату, дзе з маці жылі тры малыя сыны. Самага меншага ў звярынай лютасці ўдарылі галавой аб парог, другому стрэлілі ў рот. Алесь уратаваўся цудам: паспеў схавацца ў печ. Не пашкадавалі нелюдзі і маці — яе павесілі.

Пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў партызанскі камандзір Карп Сцяпанавіч Шлег працаваў сакратаром райкома партыі, пазней узначальваў адзін з калгасаў у Баранавіцкім раёне, урэшце — стрэлачнікам на чыгуначнай станцыі Баранавічы. Сваімі сталі Баранавічы і для сына Алеся, дзе ён скончыў сем класаў. Затым А. Шлег паступіў у рамеснае вучылішча ў Навагрудку. Працаваў слесарам, электразваршчыкам, быў качагарам, машыністам гандлёвага флоту ў Рызе, Мурманску, Адэсе. У 1954 годзе А. Шлега прызвалі на службу ў Ваенна-Марскі Флот СССР. Звольніўся ў запас у 1958 годзе інвалідам 1-й групы, вярнуўся на Беларусь.

Быў літсупрацоўнікам ляхавіцкай раённай газеты "Савецкі патрыёт", здаў экстэрнам экзамены за курс Баранавіцкай завочнай сярэдняй школы і ў 1959 годзе паступіў на аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. З трэцяга курса перавёўся на завочнае аддзяленне, бо запрасілі на працу ў рэдакцыю газеты "Звязда". Пазней працаваў у выдавецтвах "Беларусь", "Мастацкая літаратура", па дагавору — у рэдакцыях "ЛіМа", "Чырвонай змены", "Мінскай праўды", з 1979 года быў старшым рэдактарам Рэспубліканскага праўлення таварыства кнігалюбаў. З 1985 года А. Шлег — рэдактар, з 1988-га — старшы рэдактар на тэлебачанні.

Літаратурным дэбютам стаў нарыс "Так нараджаецца сталасць" ("Маладосць", 1959, N 9).

У 1968 годзе з'явіўся першы зборнік апавяданняў і нарысаў А. Шлега "Трывожная памяць". Асобнымі кніжкамі выйшлі аповесці "Цыганок" (1971), "Праўда адна" (1974), "Тайна Чорнага бору" (1991). На творчым рахунку А. Шлега і кнігі "Жыло чаканне болю" (1979), "Хлеб на далонях тваіх" (у сааўтарстве з Т. Харавец, 1986). А. Шлег — аўтар кінасцэнарыяў дакументальных фільмаў "Балтыйцы", "Палескі Марэсьеў", "Ядвіга Юсіфаўна", "Мой дом у бядзе" і іншых, шэрагу радыёп'ес, па якіх пастаўлены спектаклі — "Аперацыя "Зорачка", "Цыганок", "Рэха баравое"...

Раман "Сталінскія байструкі" засведчыў уменне пісьменніка асэнсоўваць складаныя працэсы, што адбываліся ў жыцці грамадства. Гэтым разам А. Шлег звярнуўся да гадоў сталінізму, праўдзіва ўзнавіў атмасферу, якая панавала ў рамесным вучылішчы. Галоўны герой твора Шура — не па ўзросце сур'ёзны, а галоўнае — чысцейшай душы чалавек, які ніколі не ідзе на кампраміс з сумленнем. У дзень смерці Сталіна ў вучылішчы ўспыхвае паўстанне...

Схільны да вострага сюжэта, А. Шлег надзіва ўважлівы да яго. Тое, пра што расказвае, уяўляецца неверагодным, ды факт застаецца фактам. І зусім невыпадкова ў якасці эпіграфа да рамана ўзяты словы Буало: "Праўда падчас выглядае непраўдападобнай".

А да ўсяго А. Шлег перакладае з польскай, рускай і ўкраінскай моў. Вельмі шмат ён робіць і дзеля прапаганды беларускай літаратуры, ідэі нацыянальнага Адраджэння, рыхтуючы яркія і запамінальныя перадачы на тэлебачанні. Тым самым талент пісьменніка А. Шлега паядноўваецца з талентам А. Шлега-журналіста, публіцыста.

З днём нараджэння, шаноўны Алесь Карпавіч! Моцнага Вам здароўя, нястомнасці ў ажыццяўленні новых творчых планаў!

*НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ БЕЛАРУСІ*

# ДЗІВОСНЫ КАРАБЕЛЬ — ЗЯМЛЯ

Недзе напрыканцы 70-х гадоў з розных высокіх трыбун пачало гучаць: на двары — 20-е стагоддзе, шыбуе, прастуе навукова-тэхнічны прагрэс, а дзіцячыя пісьменнікі, што тыя дзятлы, заладзілі адно і тое ж — пішуць кніжкі пра зайцоў ды буслоў, пра казюрак ды мурашак... Адзін паслужлівы маскоўскі жартаўнік нават пусціў у абыходак такое словазлучэнне — маўляў, "озверела" дзіцячая літаратура. Жарты жартамі, а кіруючыя ўказанні, што прагучалі з высокіх трыбун, трэба было выконваць. І вось у святле выступленняў высокага ўсесаюзнага і не менш высокага беларускага правадыроў мы, работнікі дзіцячых рэдакцый, складалі планы, у якія ўключалі кніжкі, што праслаўлялі дасягненні навукова-тэхнічнай рэвалюцыі. А да Чарнобыля заставалася ўсяго некалькі гадоў. Час пачаў ужо свой няўмольны адлік...

Калі я чытаў кнігі Уладзіміра Ягоўдзіка "Дзівосны карабель" і "У царстве вадзяніка", то думаў, дзякаваць Богу, што пісьменнік не чуў тых слоў з высокіх трыбун, а калі нават і чуў, то не прыслухаўся да іх. Бо героі ягоных кніжак — заяц, мядзведзь, лебедзь, ластаўка, стронга і, страшна сказаць, мурашы... Звяры, птушкі, рыбы... Кожнаму прадстаўніку жывёльнага свету прысвечана асобнае невялічкае апавяданне.

У. Ягоўдзік добра ведае дзіцячую псіхалогію і таму пачынае свае апавяданні нязвыкла, каб прыцягнуць увагу маленькага чытача. Гэта можа быць загадка, як у апавяданні пра ластаўку: "Спераду шыльца, ззаду вільцы, наверсе чорнае сукно, падыспадам белае палатно. За мора хадзіла, па-нямецку гаварыла, па-французску адказвала — што за разумніца такая?" Ці казка, як у апавяданні пра лебедзя. Ці лічылка, з якой пачынаецца аповед пра зайца. А вось, здаецца, празаічны пачатак, але не менш займальны: "Глушэц, бадай, самы стары жыхар лясоў і пушчаў. Вучоныя кажуць, што ён з'явіўся на зямлі мільёны гадоў назад. За гэты час згінула многа звяроў і птушак. Асілкі-маманты — і тыя не ўцалелі да сённяшніх дзён. А глушцы — жывуць. Нібы ім зусім не страшныя калючыя маразы, галодная бяскорміца, лютыя драпежнікі".

Маленькі чытач трапляе на "кручок" цікаўнасці, і яго ўжо за вушы не адцягнеш ад кніжкі. Аўтару гэта толькі і трэба. У. Ягоўдзік расказвае аб павадках звяроў, пра тое, дзе і як яны жывуць, якую карысць ці, наадварот, шкоду прыносяць людзям.

Шмат пра што даведаецца маленькі чытач, калі возьме ў рукі гэтыя кніжкі. Напрыклад, чаму людзі радуюцца, калі нястомны паляўнічы — ласка селіцца побач з іх жытлом: ды таму, што яна адольвае агідных пацукоў, хаця сама нярэдка меншая за гэтых ненажэрных шкоднікаў. Ці чаму дбайнага і ахайнага гаспадара барсука не так лёгка ўбачыць самога — аказваецца, на спажыву ён выходзіць прыцемкам. Даведаецца чытач і пра тое, што ў пошуках здабычы воўк прабягае за адну ноч дзесяткі кіламетраў (сапраўды, ваўка ногі кормяць), і пра кнігавак — пільную і адважную варту балотнай і вадзяной жыўнасці...

У. Ягоўдзік прыводзіць не толькі дакладныя звесткі пра звяроў, якія немагчыма абвергнуць, але і расказвае пра загадкі, таямніцы, якіх нямала ў жывёльным свеце...

Вось адна з такіх загадак. Пасля месяцаў вандроўкі вугры трапляюць у цёплае Саргасава мора, паблізу Амерыкі, і там нерастуюць. Вугровыя ікрынкі выспяваюць у рыбак-малькоў, якія настойліва імкнуцца да тых самых рэк і азёр, дзе выраслі іх бацькі.

Вучоныя спрачаюцца: як яны знаходзяць шлях да сваёй радзімы? Адны сцвярджаюць, што вуграм падказваюць дарогу цёплыя плыні, другі пярэчаць, што правільны накірунак рыбы знаходзяць па зорках.

Уладзімір Ягоўдзік дае сваю версію: "Адзін стары дзядуля-рыбак расказваў мне, што вугры ў цёмныя навальнічныя ночы выпаўзаюць з вады па гарахавінне, бо ў нас, на Беларусі, растуць вельмі салодкія струкі. Вось і вяртаюцца вугры з-за мораў-акіянаў, каб паласавацца гарохам".

Відаць, гэта не зусім навуковая, а, можа, і зусім не навуковая гіпотэза; напэўна, яна не прыбліжае нас да разгадкі таямніцы вугроў. Але ў ёй схавана, на маю думку, разгадка таго, чаму Уладзімір Ягоўдзік і шмат хто да яго нястомна пісалі і пішуць пра жывёльны і раслінны свет. Іхнія творы — непрыкметна, без гучных слоў — выхоўваюць у юнага чытача любоў да сваёй зямлі, да Радзімы з вялікай літары.

Кнігі "Дзівосны карабель" і "У царстве вадзяніка", вылучаныя на Дзяржаўную прэмію, гэта толькі невялікая частка таго, што зрабіў у апошні час Уладзімір Ягоўдзік.

Напісана кніжка пра грыбы і ягады, якія растуць у нашых лясах.

Выдадзены кнігі "Заклятыя скарбы" і "Вужовы кароль", у якія сабраны апрацаваныя для дзяцей беларускія легенды і паданні. Яны расказваюць пра тое, як на Беларусі ўзніклі рэкі і азёры, адкуль пайшлі іх назвы, назвы вёсак і гарадоў. Можа, адзін з першых У. Ягоўдзік зрабіў героямі сваіх твораў дамавікоў, русалак, ваўкалакаў, начніц, карацей кажучы, нячыстую сілу. На старонках гэтых кніг узнікаюць постаці Машэкі, Чорнай дамы Барбары, Радзівіла пане Каханку і іншых персанажаў нашай шматпакутнай гісторыі.

Цікаўнасць да гісторыі прывяла У. Ягоўдзіка да стварэння аповесцяў пра Усяслава Чарадзея і князёўну Рагнеду, дзе ўдала спалучаюцца звесткі, пачэрпнутыя з летапісаў, з выдумкай, фантазіяй. Творы надрукаваны ў часопісе "Бярозка" і газеце "Раніца".

Да таго ж У. Ягоўдзік пераклаў і пераказаў для дзяцей славутую "Аповесць мінулых гадоў". Публікацыя ў часопісе "Пачатковая школа" выклікала добры водгук вядомага вучонага Г. Штыхава.

Думаю, што кнігі, напісаныя ў апошні час Уладзімірам Ягоўдзікам, маглі б скласці план невялікага выдавецтва дзіцячай літаратуры. Сапраўдны чалавек — выдавецтва!

Дарэчы, У. Ягоўдзік зрабіў спробу здзейсніць на практыцы, ажыццявіць гэты план. Ён падбіў хлопцаў з фірмы "Ітэкс", якія выраблялі шпалеры, выпускаць, акрамя свайго дэфіцытнага тавару, дзіцячыя кніжкі і, прытым, на беларускай мове. Відаць, хацеў даказаць, што і ў новых складаных эканамічных умовах беларуская дзіцячая кніга зможа выжыць. У. Ягоўдзік прыцягнуў да стварэння кніг выдатных беларускіх мастакоў — Уладзіміра Савіча, Валерыя Славука, Уладзіміра Вішнеўскага, Міколу Рыжага, Уладзіміра Жука і многіх іншых. Гэтаму спрыяла не толькі ягонае даўняе сяброўства з мастакамі, але і разуменне таго, што без мастака сапраўднай дзіцячай кніжкі не зробіш, што мастак раўнапраўны сааўтар пісьменніка.

І вось справа закруцілася. З'явіліся першыя кніжкі, з прыгожымі каляровымі малюнкамі, на добрай паперы. А потым, ці то сапраўды новыя эканамічныя ўмовы аказаліся занадта складанымі, ці то ў фірмы "Ітэкс" не хапіла пораху на выданне беларускіх кніжак, але неўзабаве ўсё скончылася.

Аднак Уладзімір Ягоўдзік не здаўся, не скарыўся абставінам. Праз некаторы час пачаў выдаваць свайго "Лесавіка" — "школу-плакат", кожны нумар якога прысвечаны асобнаму зверу ці птушцы. Акрамя фотаздымкаў і малюнкаў, У. Ягоўдзік робіць усё сам: піша тэксты, набірае, вярстае, распаўсюджвае і, галоўнае, шукае спонсараў. Ён марыць ператварыць "Лесавіка" ў часопіс, і, я ўпэўнены, што ў яго гэта атрымаецца.

Закончыць рэцэнзію мне хочацца добрымі словамі з кніжкі "Дзівосны карабель":

"Нельга, каб апусцела, замоўкла без шматлікіх галасоў наша зямля — Дзівосны карабель, на якім усім хопіць месца: і нам, людзям, і ўсякай жыўнасці.

Дык плыві шчасліва, наш Дзівосны карабель!"

**У. МАШКОЎ**

ЛіМ ЧАСАПІС



## "БЕЛАЯ ВЕЖА - 96"



**У Брэсце закончыўся міжнародны тэатральны фестываль "Белая вежа - 96". Перад прысутнымі са словамі прывітання выступіў старшыня аргкамітэта намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Уладзімір Рылатка, які зачытаў пісьмо-зварот да ўдзельнікаў фестывалю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі. Затым сваё майстэрства брастаўчанам і гасцям горада паказвалі артысты Германіі, Польшчы, Украіны, Расіі і Беларусі.**



*На здымках: выступае старшыня аргкамітэта фестывалю намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь У. Рылатка; тэатралізаванае прадстаўленне перад адкрыццём фестывалю.*

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

## КАРЭЙСКАЯ НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ



**У мастацкай галерэі "Медэя" адкрылася выстава мастацкіх твораў карэйскай народнай творчасці. Яе арганізавалі — гандлёвае прадстаўніцтва Карэйскай Народнай Дэмакратычнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь, Беларускае рэспубліканскае таварыства сяброў КНДР імя Кім Ір Сена і мастацкая галерэя "Медэя".**

**У разнастайных работах, што прадстаўлены ў экспазіцыі, беларускія аматары мастацтва Усходу могуць убачыць жывапісныя карціны, выкананыя незвычайнай тэхнікай: вышыўкай шоўкам, складзеныя з кавалачкаў перламутру або разной косці, каляровага пяску або тоўчанага каменя. Усе работы знаёмяць беларускіх гледачоў з незнаёмай нам тысячагадовай культурай, гісторыяй, прыродай Карэі, з дасягненнямі карэйскага народа.**

*На здымку: агляд экспазіцыі.*

*Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БЕЛТА*

## РОДАМ З НАВАГРАДЧЫНЫ

**6 кастрычніка споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння Яна Булгака (памёр 4 лютага 1950 года), беларускага і польскага этнографа, фальклярыста, майстра мастацкай краязнаўчай фатаграфіі. Родам з вёскі Асташына, што на Наваградчыне. Цікавасць уяўляюць і артыкулы Я. Булгака, як, напрыклад, "Велікодныя песні на Міншчыне (валачобнікі)", "Экскурсія на Свіцязь"... Але ў першую чаргу — яго краязнаўчыя здымкі, што ўзнаўляюць беларускія краявіды, жыццё вёскі, адлюстроўваюць сялянскія пабудовы, быт жыхароў.**

**У 1919—1939 гадах Я. Булгак узначальваў лабараторыю мастацкай фатаграфіі пры Віленскім універсітэце. Вельмі шкада, што многія яго унікальныя работы не дайшлі да нашага часу. У 1944 годзе ў Вільні згарэла яго калекцыя, што налічвала каля 10 тысяч здымкаў.**

***У беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі Беларусь выступае як самастойны аб'ект гістарычнага даследавання і як суб'ект гістарычнага працэсу. Такі падыход фармаваўся паступова і быў цесна звязаны з эвалюцыяй беларускай нацыянальнай ідэі і фармаваннем нацыянальнай ідэалогіі наогул. У другой палове XIX — пачатку XX ст. Беларусь канчаткова становіцца самастойным аб'ектам доследу гісторыкаў. А вось ператварэнне яе ў суб'ект гісторыі аказалася працэсам больш складаным. Разуменне, што творцам нацыянальнай гісторыі з'яўляецца сама нацыя, што гэта яна нясе галоўную адказнасць за ўласны гістарычны лёс, прыходзіць не адразу і сведчыць пра даволі высокі ўзровень нацыянальнай і гістарычнай свядомасці. Значна часцей нацыя шукае вінаватых у сваіх бедах сярод суседніх дзяржаў і народаў. І непазбежна ўзнікае вобраз "ворага". Не пазбегла гэтага вобраза і беларуская нацыянальная ідэалогія, якая ў другой палове XIX — пачатку XX ст. перажывала важны этап свайго станаўлення. Да складвання вобраза "ворага" прычынілася і гістарыяграфія.***

***Што ўяўляў сабой вобраз "ворага" ў беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі? Якім было яго месца ў трактоўцы мінулага? І як гэта ўплывала на развіццё гістарыяграфіі і нацыянальнай ідэалогіі наогул?***

# ПАМІЖ "ДВУХ ЗОЛ"

## ВОБРАЗ "ВОРАГА" Ў БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ГІСТАРЫЯГРАФІІ ДРУГОЙ ПАЛОВЫ XIX — ПАЧАТКУ XX СТ.

У афіцыйнай ідэалогіі другой паловы XIX ст. Беларусь выглядала як "Заходні край Расіі", а беларусы — як адно з плямёнаў рускага народа. Каб прабіць мур "заходнерусізма", спатрэбіліся намаганні не толькі навукоўцаў (А. Кіркора, М. Доўнар-Запольскага, Я. Карскага і інш.), але і дзеячаў беларускага нацыянальнага руху (К. Каліноўскага, беларускіх народнікаў, Ф. Багушэвіча). Усе яны прычыніліся да станаўлення беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі, якая ва ўвесь голас заявіла пра сябе "Кароткай гісторыяй Беларусі" В. Ластоўскага (1910 г.). Апошняя быццам акумулявала і нацыянальнае пачуццё дзеячаў беларускага руху, і тагачасны навуковы ўзровень ведаў пра мінулае Беларусі.

К. Каліноўскі (1838—1864) у сваіх публіцыстычных творах не часта звяртаўся да гісторыі. Тыя гістарычныя экскурсы, якія сустракаліся на старонках "Мужыцкай праўды", былі часткай прапагандысцкай падрыхтоўкі паўстання. Аднак гэта зусім не прыніжае іх значэння.

З дапамогай гісторыі К. Каліноўскі даказаў сялянам, што прычынай іх бядотнага становішча з'яўляецца ўстанаўленне "маскоўскага праўлення": "...пайшоў ронд маскоўскі, так і ўсё зрабілася па-чартоўску". Грабежніцкімі набегамі "немца" і "маскаля" К. Каліноўскі тлумачыў канец "залатога веку" на Беларусі ("Быў-то калісьці народ наш вольны і багаты").

Ён абвінавачваў "маскоўскага цара" ў знішчэнні беларускай уніяцкай царквы: "...адабраў ад нас нашую справядлівую уніяцкую веру і пагубіў нас перад Богам навекі, каб мог нас без канца драці".

Відавочна, што ў якасці галоўнага ворага Беларусі ў публіцыстыцы К. Каліноўскага выступаў "маскаль". Гэты тэрмін не распаўсюджваўся на весь рускі народ. Для К. Каліноўскага "маскаль" — гэта цар, чыноўнікі, войска.

Аднак толькі гэтым вобраз "ворага" не абмяжоўваўся. Распавёўшы пра напады зайздросных суседзяў ("немца" і "маскаля"), К. Каліноўскі адзначаў, што на заклік караля абараняць родную зямлю адгукнуліся далёка не ўсе. Многія засталіся ў сваіх сядзібах. І кароль, каб узнагародзіць мужнасць, загадаў тым, хто не пайшоў на вайну, карміць і утрымліваць абаронцаў і іх сем'і. Аўтар "Мужыцкай праўды" нагадаў і пра "касцюшкаўскі маніфест", які дараваў волю тым сялянам, што папаўнялі шэрагі паўстанцаў. Аднак і ў гэтым выпадку, заўважыў К. Каліноўскі, не ўсе ўзняліся на барацьбу, бо "маскаль спыніў маніфест". У выніку паўстанне было задушана.

У публіцыстыцы К. Каліноўскага вобраз "ворага" выступаў нібыта ў двух іпастасях. Гэта не толькі знешні вораг ("маскаль"), гэта і "ўнутраны" вораг — баязлівасць і абыякавасць. І вось на гэтую другую іпастась варта звярнуць увагу. Існаванне "ўнутранага" ворага спрыяла пашырэнню ў нацыянальнай гістарыяграфіі і ў ідэалогіі наогул пачуцця ўласнай адказнасці за ўласны гістарычны лёс. А гэта было першым крокам да ўсведамлення сваёй нацыі ў якасці суб'екта гісторыі.

А. Кіркор, аўтар гістарычнай часткі т. II "Живописной России" (1882), не з'яўляўся гісторыкам-прафесіяналам. Тым не менш, добрае веданне гістарычнай літаратуры, уласныя этнаграфічныя і археалагічныя даследаванні, "літвінскі" патрыятызм дапамаглі яму напісаць працу, якая сталася значным укладам у беларускую гістарыяграфію.

А. Кіркор удзяліў шмат увагі той ролі, якую адыгралі ў гістарычным лёсе беларуска-літоўскага краю бліжэйшыя ўсходні і заходні суседзі. У прыватнасці, ён адзначыў барацьбу, якую вялі польскія палітыкі на чале з кракаўскім біскупам З. Алясьніцкім супраць імкнення вялікага князя Вітаўта "ўтварыць моцную незалежную дзяржаву і стаць каралём Літвы і Русі". Люблінскую унію А. Кіркор ацаніў, як палітычную смерць Вялікага княства. Тым не менш, ён не выказаў ні абурэння, ні асуджэння дзейнасці польскіх палітыкаў. Наадварот, у адносінах да таго ж З. Алясьніцкага і яго паплечнікаў аўтар заўважыў, што яны былі "людзьмі разумнымі, глыбокімі палітыкамі і сапраўднымі патрыётамі" Польшчы. Аналагічна А. Кіркор паставіўся да працэсу паланізацыі, да культурнага дамінавання Польшчы на беларуска-літоўскіх землях у XVII—XVIII стст. "Нельга... не пагадзіцца, — пісаў ён, — што як у адукацыі, так і ў грамадзянскіх правах і ўстановах і, нарэшце, у свядомым пачуцці патрыятызму, палякі мелі значную перавагу над літоўцамі і беларусамі. Гэтым і тлумачыцца, што па закону прыроды вышэйшая і мацнейшая цывілізацыя праглынула слабейшую і малодшую". Прычына гэтай перавагі, па А. Кіркору, у тым, што "кола гісторыі павярнулася ў бок палякаў".

Распавядаючы пра адносіны з усходнім суседам, А. Кіркор адзначыў імперскія амбіцыі маскоўскіх уладароў, якія былі прычынай бясконцых ваенных паходаў на Беларусь і Літву. Тысячы і тысячы магіл, пісаў ён, нагадваюць беларусам пра тыя войны. А. Кіркор настолькі моцна адчуваў трагедыю беларускай зямлі, змардаванай маскоўскай агрэсіяй, што нават напалеонаўскае нашэсце параўнаў з дзеяннямі войскаў цара Аляксея Міхайлавіча і Пятра І, якія, па яго словах, ператварылі край у выпаленую зямлю. Палітычныя падзеі другой паловы XVIII — першай паловы XIX ст. гісторык пералічыў у тэлеграфным стылі без каментарыяў. Ніякіх уласных ацэнак знешняй палітыкі Расіі, укладу ўсходняга суседа ў гістарычны лёс беларусаў і літоўцаў А. Кіркор не зрабіў. Ён быццам толькі канстатаваў факты.

На першы погляд, вобраз "ворага" ў працы А. Кіркора цалкам адсутнічаў. Усё адмоўнае, што прыйшло з Захаду або Усходу, ён тлумачыў наканаваннем гістарычнага лёсу. У гістарычнай канцэпцыі А. Кіркора палякі нават не трапляюць у катэгорыю "чужых". Яны "свае". Іх блізкасць абумоўлівалася перапляценнем гістарычнага лёсу палякаў, беларусаў і літоўцаў. "Літвінскі" патрыятызм А. Кіркора спалучаўся з замілаваннем да Рэчы Паспалітай як Айчыны ў шырокім сэнсе. Якраз таму ў вельмі стрыманых і асцярожных высновах А. Кіркора адчувалася сімпатыя да польскай нацыі і, асабліва, да дзеячаў польскай культуры ў беларуска-літоўскім краі.

А вось расійскі ўплыў на беларускую гісторыю ён ацэньваў інакш. А. Кіркор пазбягаў асуджальных высноў, але з кожнай старонкай гістарычнага нарыса нарастала пачуццё, што Расія — гэта чужынец. Аўтар толькі знешне захоўваў нейтралітэт. Яго пэўная адхіленасць ад прыведзеных гістарычных фактаў прымушае ўспомніць пра час, калі пісаўся т. III "Живописной России". Пачатак 80-х гадоў XIX ст. на Беларусі і Літве — гэта перыяд мэтанакіраванай русіфікацыі краю. Адхіленасць А. Кіркора — толькі вынік аўтарскай абачлівасці. Гістарычныя факты, выкладзеныя на старонках яго працы, казалі самі за сябе. Яны не патрабавалі каментарыяў. Уважлівы і ўдумлівы чытач выдатна разумеў, што нічога, акрамя бед і гора, маскоўскія ўладары не прынеслі на беларускую зямлю. Пацвярджае гэта і аўтарскае разважанне наконт паўстання 1863—1864 гг., "Тысячы забітых у бітвах, мноства расстраляных і павешаных, тысячы сасланых у катаргу і Сібір, спаленне і спустошэнне шматлікіх селішчаў, высяленне вёсак, пазбаўленне жыхароў шляхецтва, права набываць маёнткі, займаць дзяржаўныя пасады, абмежаванне колькасці вучняў вышэйшых навучальных устаноў, прыпыненне дабрадзейных рэформ, якімі карыстаюцца ўнутраныя губерні... — вось сумныя наступствы захапленняў і легкадумнай веры замежным падбухторшчыкам". Выснове гэтага сказа выразна пярэчыць падрабязны пералік бедстваў, якія перажыў край. Гэты пералік нясе моцны эмацыянальны антырасійскі зарад, і тым самым указвае на зусім іншага віноўніка.

Вобраз "ворага" прысутнічаў у працы А. Кіркора. Ворагам з'яўляліся маскоўскія, а пазней расійскія, уладары і іх прыспешнікі. Аднак гісторык не заваstраў увагу на гэтым вобразе.

Гісторыя Беларусі прысутнічала і ў публіцыстычных творах беларускіх народнікаў, якія на пачатку 80-х гадоў зрабілі першую спробу тэарэтычна абгрунтаваць існаванне беларускай нацыі. У так званым "Пісьме Данілы Баравіка" ("Письма о Белоруссии. Письмо первое", 1882) адзначалася, што да XV ст. беларускі народ жыў самастойным жыццём, меў уласную дзяржаву ("Літву") і сам вызначаў свой гістарычны лёс. Усё змянілася, калі ўзраслі культурна-рэлігійныя і палітычныя ўплывы Польшчы. Іх вынікам, па меркаванні аўтара (ці аўтараў?) "Пісьма", сталася паланізацыя "вышэйшага класа беларускага народа" і страта дзяржаўнасці. Працэсы паланізацыі не закранулі "просты беларускі народ", які быў моцна прыціснуты прыгонным ладам і вёў сапраўдную барацьбу за выжыванне.

З канца XVIII ст. на беларускай зямлі ўстанавілася расійскае панаванне. Праўда, спачатку гэта нічога не змяніла. У "Пісьме" адзначалася, што ў перыяд праўлення Аляксандра І нават працягвалася паланізацыя, якая закранула ўжо і сялянства. А вось пасля 1863 г. пачалося абрусенне краю. Як сцвярджалі народнікі, русіфікацыя адбываецца праз адукацыю і палітыку рэпрэсій: "Наша Беларусь вось ужо 20 гадоў знаходзіцца ў выключным ваенным становішчы, пры якім немагчыма ніякая законнасць". Тым не менш, у "Пісьме" выказвалася ўпэўненасць, што беларускі народ не паддаўся ні паланізацыі, ні русіфікацыі, і захаваў сваю адметнасць.

Аналагічных поглядаў на беларускую гісторыю прытрымліваліся і выдаўцы часопіса "Гомон". Яны сцвярджалі, што бліжэйшыя суседзі звычайна глядзелі на беларусаў як на матэрыял да асіміляцыі і імкнуліся растварыць іх "у велікарускім або польскім моры": "Палітыка гвалту працягвалася цэлыя стагоддзі. Яна пачалася ўладарніцтвам Польшчы і завяршаецца панаваннем маскоўскага абсалютызму. Апошні не прыпыняецца ні перад якімі сродкамі дзеля дасягнення аднастайнасці, вельмі зручнай для яго фіксальных і паліцыйных мэт". Аўтары "Гомона" адзначалі, што Беларусь мела "ўласнае гістарычнае жыццё", характэрнай рысай якога было "народаўладдзе". Народ выганяў князёў і запрашаў іх па сваёй волі. Канец "уласнага гістарычнага жыцця" народнікі звязвалі з палітыкай Польшчы, якая, па іх словах, разбэсціла шляхецкую беларускую інтэлігенцыю і падавіла народ. Яны звярталі ўвагу, што слова "паляк" для беларуса часта з'яўляецца сінонімам слоў "пан, "памешчык" і нагадвае пра цяжкі час прыгонніцтва.

Гоманаўцы катэгарычна абвяргалі тэзіс пра забітасць і выраджэнне беларусаў. Яны падкрэслівалі, што беларусы ў сваёй гісторыі неаднаразова ўздымаліся на барацьбу ў абарону "сваёй рэгіянальнасці і супраць шляхецкага прыгнёту".

Народнікі заклікалі беларусаў паверыць ва ўласныя сілы і стаць гаспадарамі свайго лёсу: "Прэч эксплуатацыю! Мы самі жадаем кіраваць сабой! Прэч чужыя рукі! Беларусь для беларусаў, а не для чужынцаў! Досыць нам падпарадкоўвацца мацнейшым і чакаць, куды яны нас павернуць — направа ці налева! Мы самі павінны заваяваць сабе свабоду, не спадзеючыся на іншых!".

У публіцыстычных творах беларускіх народнікаў вобраз "ворага" набыў досыць вялікую вагу. Яны першымі вылучылі тэзіс "двух зол" беларускай гісторыі — польскага і маскоўскага. Упершыню вобраз "ворага" пераносіўся і ў сацыяльную сферу. Гістарычным віноўнікам цяжкага становішча беларускага народа абвяшчалася шляхта. Цікавасць выклікае і само ўжыванне тэрміна "беларускі народ". Гэтае паняцце ўжывалася і ў этнічным і ў сацыяльным сэнсе. Але, адзначыўшы працэс паланізацыі, народнікі пачалі атаясамліваць беларускую нацыю з сялянствам.

Вобраз "ворага" спалучаўся з перакананнем у здольнасць беларусаў самастойна вырашаць свой лёс. Гэтае перакананне было гістарычна абгрунтавана. Яно не дазваляла воб-

НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ БЕЛАРУСІ

***Усё проста: выканаўцу пашчасціла знайсці "сваіх" аўтараў, аўтарам — "свайго" выканаўцу. Хормайстар Аляксей Шут, кампазітары Сяргей Бельцюкоў (аўтар "Усяночнай") ды Алег Залётнеў (аўтар "Літургіі св. Іаана Златавуста") знайшлі адно аднаго. Але цяпер, калі праграма новай беларускай праваслаўнай музыкі больш чым год з часу яе прэм'еры мае добры грамадскі рэзананс, неаднойчы гучала ў канцэртных залах, у культавых будынках (на Беларусі, у краінах Усходняй Еўропы), скарыстоўвалася нават падчас набажэнстваў у Свята-Мікалаеўскай царкве горада Слуцка, да таго ж сталася музычна-драматургічнай асновай спектакля на хрысціянскую тэму, пастаўленага Б. Луцэнкам у Акадэмічным рускім тэатры рэспублікі, — цяпер можна прыгадаць, што ініцыятарам шчаслівага творчага саюза быў мастацкі кіраўнік Мінскага абласнога камернага хору "Sonorus" Аляксей Шут.***

# "МЫ", САТКАНЫЯ З "Я"

Тры гады таму ён "прачнуўся знакамітым". Ну, вядома ж, не з таго, што пра яго напісаў "ЛіМ". Справаю "ЛіМа" было — заўважыць і падтрымаць новую адметную з'яву ў айчынным музычным мастацтве. А як жа не заўважыць: Аляксей Шут са сваім тады яшчэ безыменным "дзіцём" — Мінскім абласным камерным хорам, створаным у Маладзечне, вылучыўся на Першым міжнародным фестывалі хрысціянскай музыкі "Магутны Божа". Хор не толькі трапіў у лік лаўрэатаў, але і аказаўся адзіным сярод калектываў, каго запрасілі выступіць на прэстыжным фестывалі новай рэлігійнай музыкі "Сакрасонг", што праводзіцца ў Кракаве. Потым — Германія. Потым зноў — Польшча. І гастролі па Беларусі. Новыя праграмы з новых сучасных твораў, заходнееўрапейскай і рускай культавай музыкі. Прэм'еры беларускіх аўтараў. Адраджэнне нашай харавой спадчыны...



Творчая біяграфія маладога калектыву, які цяпер завецца "Sonorus" (ад лацінскага "гучны"), багацее на падзеі ды штрыхі. А партрэт яго стваральніка і кіраўніка? Ды быццам бы той самы. Сівізна, праўда, адолела і ў позірку адбіваецца трывожнае-турботнае жыццё. У астатнім, наколькі яго ведаю, — усё той жа: музыкант-рамантык, захоплены творчымі марамі і... прафесійнік-рэаліст, гаспадар канкрэтнай справы, спакроўлены са сваім часам і са сваёй зямлёй. Тонкі псіхолаг, добрая, сонечная душа (нездарма ж Аляксей Аляксандравіч меў поспехі, працуючы з дзіцячымі харавымі калектывамі). Што да майстэрства, дык яшчэ тры гады таму згадвала я словы выдатнага маэстра, прафесара Віктара Роўды пра хор яго нага вучня А. Шута: які ж гэта, маўляў, камерны хор — гэта малы акадэмічны хор!

**З размоваў А. Ш.** Усім, каго называюць "работнікамі культуры", жывецца цяжка. Ад гэтага і працаваць няпроста. Глянеш у твар дзеяча мастацтва, якому наканавана быць носьбітам духоўнасці, а ў ягоных вачах... грошы. І горка, і сорамна... Можна толькі паспачуваць адно аднаму ў сваіх надзённых клопатах. А ўсё ж я прашу сваіх артыстаў: на рэпетыцыях гаварыце пра што заўгодна, толькі, калі ласка, не пра грошы... А час увогуле цікавы для нашага музычнага мастацтва: нарэшце, яно адраджаецца. Калі мы вучыліся, нам распавядалі пра шарамецеўскую капэлу, а пра беларускія аналагічныя з'явы не казалі нічога, бо толькі цяпер "атрымалі права на жыццё" дакументы-сведчанні, якія багатыя традыцыі былі ў нас, якія выбітныя капэлы існавалі на Беларусі, як высока яны каціраваліся ў Еўропе! Нарэшце мы адкрываем забытыя імёны, вяртаем у сваю культурную свядомасць тое, што было выкраслена з нашай памяці.

За тры гады знаёмства з Аляксеем Аляксандравічам я ўпершыню задала банальна-непазбежнае пытанне: пра шлях у мастацтва. І высветліла, што шлях гэты, можна сказаць, пачынаўся ў Заслаўі, дзе будучы маэстра нарадзіўся, а прадоўжыўся ў Вілейцы, дзе маці літаральна выцягнула малечу з прыдарожнага пяску і павяла ў музычную школу, бо з пяці гадоў ён звярнуў на сябе ўвагу старэйшых спевамі. У ДМШ ён патрапіў, не маючы і шасці гадкоў. Інструмент для навучання выбіраў сам: фартэпіяна — не хацеў; баян — пераважыў бы маларослага хлапчука. Скрыпка! І дзед Сцяпан граў на скрыпцы, сталяром калісьці быў і змайстраваў для свайго інструмента адмысловы футарал. Выбраўшы скрыпку, Аляксей не засяроджваў сваю дапытлівасць толькі на ёй: то будзільнік раскручваў, то спрабаваў доследным чынам дазнацца, чаму запалкі гараць... Музычную школу скончыў, калі ў сярэдняй заставалася вучыцца яшчэ два гады. Задумаўся пра будучую прафесію: сур'ёзна падабалася журналістыка, ды "лёс выкінуў на дырыжора".

**З размоваў А. Ш.** Тады я не разумеў, наколькі складаная прафесія харавога дырыжора: музыкант, выканаўца, арганізатар, псіхолаг, педагог... Шмат ёсць фармулёвак, што такое хор. "Гэта "мы", сатканыя з "я", — фармулёўка Уладзіміра Мініна. Вядома, у кожнага свой свет, сваё выхаванне, і погляд на выхаванне, — і ўсе мусяць зрабіцца "мы". А дырыжору важна памятаць не толькі пра свой чын — **што**, маўляў, яны без мяне? А памятаць іншае: што я — **без іх**? Узаеманеабходнасць — як важна гэта не страціць! Калі ўдалося "мы" саткаць, дык у гэтым заслуга кожнага. Калі артыст сфальшывіў ці ўступіў раней, чым трэба, — у яго стрэс, ад якога трэба лячыць, а не ўзмацняць гэты цяжкі псіхалагічны стан ушчуваннямі. Зразумела ж, артысты ніколі наўмысна не робяць кепска! Можа, гэта ў мяне жэст атрымаўся няўцямны... Таму я ніколі не ўпікаю артыстаў за няўдачы і не падзяляю вынік ступлення на "мой" поспех і няўдачы "іх".

Леташняй зімою "Sonorus" выступіў у Мінску з новай праграмай, у новай зале (адрэстаўраваным Чырвоным касцёле), у абноўленым складзе і... І ў якасці ўжо сталічнага жыхара. Захаваўшы статус абласнога, хор памяняў маладзечанскую прапіску на мінскую, займеўшы дадатковыя арганізацыйныя, побытавыя і творчыя клопаты. Звычайна на адаптацыю ў новых умовах даецца амаль год працы. Але "Sonorus" працягваў працаваць у напружаным рэжыме; не абвяшчаў конкурс на вакантныя месцы ў хоры (не ўсе змаглі пераехаць у Мінск з Маладзечна) — сталічны "рынак артыстаў" ішоў насустрач са сваімі прапановамі.

Сярод музыкантаў пайшла жартоўная пагалоска: Шут, маўляў, перацягнуў да сябе лепшыя сілы з акадэмічных калектываў. Што ж, у Мінску хормайстар мае выбар артыстаў, але і артысты маюць права выбіраць, **з кім** працаваць, а не толькі — за які заробак. "Грошы ў вачах" усё ж не замінаюць адрозніць больш прывабную ў творчым сэнсе працу, больш сугучнага сабе кіраўніка.

Паступова сфарміраваўся сталы калектыў (адышлі студэнты, сумяшчальнікі, мала хто застаўся працаваць па дамове). З прафесіяналамі маэстра можа гаварыць на высокай мове музыкі, не выдаткуючы час на вытлумачэнне проста тэхнічных рэчаў.

Дзякуй Богу, харавікі на рэпертуарны голад не скардзяцца. Музыкі — мора! І гэтае неабдымнае мора Аляксей Шут імкнецца ахапіць. Яшчэ тры гады таму, даведаўшыся, што маэстра стараецца асвоіць **усю** беларускую харавую літаратуру, не спяшаючыся адмаўляцца ад так званых "нецікавых" партытур (бо аўтар жа меў штосьці на ўвазе, чымсьці ж ён быў захоплены, натхнёны — трэба паспрабаваць знайсці да яго ключык!), сёй-той назваў гэта дырыжорскай непераборлівасцю, усяеднасцю. Мастацкая практыка хору "Sonorus" прымусіла скептыкаў у хуткім часе рабіць іншыя высновы: па натуры стваральнік, А. Шут у працы іншых імкнецца разгледзець найперш "іскрынку Божую" ці хаця б рацыянальнае зерне, прытрымліваецца вядомага правіла — меркаваць пра творцу паводле законаў, якія той сам для сябе вызначыў. Вось чаму і "няўдалыя" з пункту гледжання іншых музыкантаў творы, нібыта па знаку ягоных поўных добрай энергіі рук, свецяцца хай сціплай, але ўжо неаспрэчнай іскрынкай таленту іх стваральнікаў.

У імкненні спасцігнуць мастацкую логіку аўтара А. Шут дасягае пераканальнага гарманічнага гучання самай рознай музыкі. "На роўных" існуюць у рэпертуары хору "Sonorus" незвычайная сімфонія А. Мдзівані "Паўночныя кветкі", геніяльная соль-мажорная Імша Ф. Шуберта, творы Ш. Гуно і К. Сен-Санса, Л. Мурашкі, М. Літвіна і У. Карызны, найноўшыя опусы польскіх аўтараў і песняспевы беларускай царквы — М. Равенскі, М. Куліковіч, А. Валынчык, М. Бутома; найскладаная Імша "Pro pace" ("Пра мір") М. Друфле і апрацоўкі беларускіх, рускіх народных песень.

**З размоваў А. Ш.** Кампазітар — гэта, я сказаў бы, змагар-самотнік, які залежыць толькі ад сябе ў вызначэнні тэмпаў, штрыхоў, увогуле — вобразнага ладу твора. Ну, добра: ён можа, згодна з агульнавядомымі правіламі, напісаць у нотах абсалютна дакладныя тэмпы выканання і штрыхі. Але ж калі ў нотах вялікага Баха ўсё дакладна і зразумела — чаму ўсё ж ладзяцца бахаўскія конкурсы для выканаўцаў? Якім чынам кампазітар можа пазначыць у нотах эмацыянальную сферу? Можна, дапусцім, напісаць: "цяплей". Але што гэта будзе значыць? Цяплей — наколькі? Што закадзіраваў кампазітар у сваім рукапісе? Чаму і дзеля чаго ўзнікаюць розныя інтэрпрэтацыі адной і той жа музыкі? Чаму адна і тая ж музыка можа падавацца нудотнай, а можа — захапляючай? "Чалавекі" таму і ёсць "чалавекі", што мы — розныя, адно і тое ж успрымаем па-рознаму. І ў той жа час гэтыя розныя "я" збіраюцца ў адзіны хор...

У нас на Беларусі чалавек мастацтва ніколі не застаецца па-за ўнутранымі працэсамі, што адбываюцца ў грамадстве, у нацыі наогул, і ў гэтым сэнсе чалавек мастацтва не бывае па-за палітыкай. Вось адкрылася магчымасць пісаць рэлігійную музыку. Я не думаю, што ўсе нашы творцы такія ўжо шчырыя праваслаўныя, але пісаць пачалі ў асноўным у праваслаўнай традыцыі. Вынікі, зразумела, розныя... Але ж у нас ёсць яшчэ адна традыцыя зносін з вышэйшым Духоўным Уладаром — каталіцкая, і я спадзяюся, што ўзоры сучаснай беларускай імшы таксама будуць у нашым рэпертуары.

Працуючы над кананічнымі песняспевамі беларускай царквы, руплівa сабранымі лонданскім даследчыкам Гаем дэ Пікардам, я нечакана сутыкнуўся вось з якой праблемай. Зразумела, што з лепшымі намерамі тэксты песняспеваў былі перакладзены з царкоўнаславянскай мовы на сучасную беларускую. Як чалавек, улюбёны ў роднае слова, я спачатку парадаваўся. Але ж як выканаўца заўважыў немэтазгоднасць зробленага. Нездарма ж у цывілізаваным оперным свеце творы выконваюцца на мове арыгінала! Бо сінтаксіс музычны і моўны ў аўтарскім творы настолькі зближаюцца, што калі потым будзе заменена хаця б слова, пачнецца несупадзенне моцных і слабых доляў, парушэнне інтанацыйнай логікі, ссоўванне націскаў і да т. п. Каб сумясціць націскныя склады перакладзенага тэксту, трэба драбніць або падаўжаць нотныя долі — гэта не проста фізічна ўскладнёная праца, гэта цяжка і ў маральным сэнсе, бо адчуваеш сябе не зусім карэктным у адносінах да кампазітара, які зрабіў дыхтоўны мастацкі твор... У мяне б не паднялася рука перакласці на іншую мову кананічны лацінскі харал, каб потым яшчэ былі зроблены неабходныя "падцяжкі" ў музычным тэксце! Таму я ўрэшце ўзяў зборнік з кананічнымі царкоўнаславянскімі малітвамі, знайшоў адпаведнікі "перакладам" — і ўся музыка цудоўна з імі спалучылася, і з гэтай праграмай мы адкрылі свой новы канцэртны сезон у Мінску...

У той вечар зала на Залатой Горцы вітала яшчэ адну прэм'еру — "Літургію св. Іаана Златавуста" А. Хадоскі, першае выкананне якой адбылося ўлетку ў Магілёве, падчас фестывалю "Магутны Божа", пра што наш дапытлівы чытач мог даведацца з нядаўняй публікацыі "ЛіМа". Давядзецца трошкі пачакаць — і хор "Sonorus" падорыць сваім шматлікім прыхільнікам новы арыгінальны твор А. Літвіноўскага — на кананічныя беларускія тэксты, з арганам і лёгкім аркестравым суправаджэннем.

А. Шут мае захапляючыя планы "на заўтра", хаця гаворыць пра іх абачліва, каб не сурочыць. Але ж таго, што зроблена, не сурочыш, гэта ўжо факты біяграфіі хору і ягонага кіраўніка. Трыумф "Паўночных кветак" у "Смаленску; выкананне пад вольным небам прыморскага фестывальнага мястэчка ў Польшчы беларускага гімна "Магутны Божа"; асветніцкія канцэрты для дзетак чарнобыльскай зоны; авацыя песні "Зорка Венера" ў перапоўненых германскіх кірхах; творчая праца з нямецкім маэстра; два-чатыры штомесячныя выхады ў спектаклі Рускага тэатра, калі дырыжор вымушаны стасавацца з калектывам, "раскіданым па балконе другога яруса", праз няўгледнае энергетычнае поле...

Зрэшты, яшчэ да таго, як рэжысёр Б. Луцэнка паслухаў-угледзеў творы С. Бельцюкова ды А. Залётнева ў выкананні хору "Sonorus" і зрабіў паводле іх спектакль, А. Шут увёў у гэтую праграму элементы — назаву іх так — харавога тэатра. Перастаноўкі артыстаў, незвыклыя мізансцэны па ходзе спявання, — гэта мела цікавы акустычны, нават санарыстычны эфект. Балазе, музычны матэрыял, хаця і зарыентаваны на традыцыі праваслаўных песняспеваў XIX стагоддзя, дае магчымасці для сучасных гукавых эксперыментаў.

Яны надзіва гарманічна дапаўняюць адно аднаго: рыгарызм "Усяночнай" Сяргея Бельцюкова, эмацыянальны драматызм і велікодная радасць "Літургіі" Алега Залётнева, мастакоўскае адчуванне "залатой сярэдзіны", якое выяўляецца ва ўменні Аляксея Шута сагрэць логіку кампазітарскага розуму логікай пеўчае душы, а ўспышкі зямной сентыментальнасці ўраўнаважыць мудрай стрыманасцю духу. Вось дзе й сапраўды: "мы", сатканае з "я"! Невыпадкова на атрыманне Дзяржаўнай прэміі за гэтую музычную праграму яны вылучаны разам: Сяргей Бельцюкоў, Алег Залётнеў, Аляксей Шут.

Мабыць, з іх супольнай працы пачнецца і "матэрыялізацыя ідэі" — стварэнне рэальных умоў для Тэатра Хору, пра які (прыадкрыю куфэрак мастакоўскіх сакрэтаў!) марыць Аляксей Шут. Аднак пра гэта — наступным разам...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымку — Аляксей ШУТ.*




ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | (1932-35) |
| *І.Гурскі* | (1935-41) |
| *А.Куляшоў* | (1945-46) |
| *М.Горцаў* | (1947-49) |
| *П.Кавалёў* | (1949-50) |
| *В.Вітка* | (1951-57) |
| *М.Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я.Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н.Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л.Прокша* | (1969-72) |
| *Х.Жычка* | (1972-76) |
| *А.Асіпенка* | (1976-80) |
| *А.Жук* | (1980-86) |
| *А.Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,* **Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП** — *намеснік галоўнага рэдактара*



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 2332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 2332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985**
**літаратурнага жыцця — 2332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985**
**паэзіі і прозы — 2332-204**
**музыкі — 2332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 2332-462**
**навін — 2332-462**
**мастацкага афармлення — 2332-204**
**фотакарэспандэнт — 2332-462**
**бухгалтэрыя — 2682-660**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 4785
Нумар падпісаны 10.10.1996 г.
Заказ 6590/Г

П 123456789101112
М 123456789101112